 

# Масква

## (Ад нашага карэспандэнта)

І вось мы ў Маскве. Выгадна размясціўшыся ў нашым турыстычным аўтобусе, мы ездзім па вуліцах Масквы, знаёмімся з горадам.

Так, гэта зусім не такая Масква, аб якой мне так часта расказваў бацька (яму давялося тут быць у дарэвалюцыйныя гады). Не сустрэлі мы ніводнай традыцыйнай у часы бацькавай пабыўкі ліхой тройкі, запрэжанай у маляваныя санкі. Не ведаю, мо' і таму, што на вуліцах Масквы, хоць зіма ў разгары, нідзе не знойдзеш снегу. Калі ён толькі нападае, яго зараз жа падбіраюць снегачысцiцелі. А мо' таму, што гэта ўжо выйшла з моды? Але не, пасля я даведаўся, што масквічы і цяпер вельмі любяць і тройку, і масляную, толькі не ў самай Маскве, а ў падмаскоў'і. У Маскве, як яны сцвярджаюць, гэта не падыходзіць.

У які б вы бок сталіцы не падаліся, дык усюды відаць рост новага. Асабліва гэта заўважаецца далей ад цэнтра. Тут будуюцца цэлыя новыя кварталы. Нават руская зіма не ў сілах перашкодзіць працы будаўнікоў. Масква разбудоўваецца ў шыр. Таму, праязджаючы акраінамі горада, прыезджага здзіўляе наяўнасць вялікіх кантрастаў. Побач з навейшымі шматпавярховымі дамамі - гігантамі стаяць маленькія, быццам ад жаху прыпаўшыя да зямлі, драўляныя «ізбушкі». Масквічы гэты факт растлумачваюць тым, што шпаркая разбудова сталіцы ў шыр проста паглынае быўшыя падмаскоўныя вёскі. Развальваць гэтыя домікі пакуль немагчыма. Ну, што ж, жыллёвая праблема і ў Маскве яшчэ не зусім вырашана. Усё ж-такі Масква, амаль сямімільённы горад.

Масквічы апранаюцца багата, аднак за мала густоўна. У большасці спатканых на вуліцы жанчын шыкарныя футры. Вельмі тут модныя таксама на паліто каўнеры з сярэбраных лісаў, так званыя «чорнабуркі». Іх сапраўды маса на вуліцах Масквы. У кожнага мужчыны абавязкова футраная шапка.

У магазінах заўсёды поўна пакупнікаў. Вялікай папулярнасцю сярод масквічоў карыстаецца Дзяржаўны Універсальны Магазін, так званы ГУМ, што насупраць Чырвонай Плошчы. Тут можаш купіць усё. Аднак і тут тысячы пакупнікаў і тут цесна. Але вас сустрэне ветлівасць. Абавязкова ўступяць вам месца (нейк тут адразу пазнаюць іншаземцаў) і прадаўшчыца ў першую чаргу спытае вас: «Что вам подать товарищ?»

Прабываючы ў Маскве, мы таксама прайшлі экскурсіяй па музеях і гістарычных помніках сталіцы. Асаблівае ўражанне на экскурсантаў робіць старажытні Крэмль. Мне перадусім запомнілася ў Крэмлі Аружэйная палата. Тут сабраны каштоўныя прадметы еўрапейскага і ўсходняга прыкладнога мастацтва.

Давялося нам пабываць і ў славутай Трэцякоўскай галярэі. Тут заўсёды шматлюдна і пры ўваходзе ў музей стаіць даўжэзная чарга наведвальнікаў.

Людзі розных прафесій і ўзросту. Трацякоўская галярэя цікавіць кожнага. Хаця б толькі з-за яе варта пабываць у Маскве.

ВАСІЛЬ БАРШЧЭЎСКІ



Цар-звон каля званіцы «Іван Вялікі» на Крамлі.

С. МАРГУНСКІ **7)**

# Першая канстытуцыя Беларусі

Паршая Канстытуцыя БССР зафіксіравала ўсе тыя дасягненні, якія былі заваёваны рабочымі і працоўнымі сялянамі ў выніку перамогі Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі.

Узорам для Канстытуцый усіх брацкіх савецкіх рэспублік, у тым ліку і для Канстытуцыі БССР, паслужыла прынятая 10 ліпеня 1918 года V Усерасійскім з'ездам Саветаў Канстытуцыя РСФСР, у якой быў запісан вопыт барацьбы і арганізацыі пралетарскіх мас супроць эксплуататараў і ўнутры краіны, і ва ўсім свеце.

Першая Канстытуцыя Беларускай савецкай рэспублікі заканадаўча замацавала дыктатуру рабочага класа. Яна абараняла грамадскія парадкі, выгадныя рабочаму класу і ўсім працоўным. У гэтым яе галоўнае адрозненне ад любой буржуазнай канстытуцыі. Першая Канстытуцыя Беларусі замацоўвала ліквідацыю эксплуататарскіх класаў, знішчэнне эксплуатацыі чалавека чалавекам, адмену прыватнай уласнасці на зямлю, аб'яўленне лясоў, нетраў і вод дзяржаўным здабыткам.

Высоўваючы задачу знішчэння варожых эксплуататарскіх класаў і іх агентуры, беларуская савецкая сацыялістычная дзяржава ў сваёй палітыцы выходзіла з неабходнасці ўмацавання брацкага саюза рабочых і сялян. Ад узаемаадносін рабочага класа з працоўным сялянствам, галоўным чынам з сярэднім сялянствам, залежаў лёс і будучае Савецкай Беларусі.

Канстытуцыя БССР аднавіла палажэнне Канстытуцыі РСФСР аб правах і абавязках грамадзян. Яна замацавала адно з важнейшых дасягненняў, заваёваных працоўнымі, — непарушнасць, паўнату і рэальнасць сацыялістычнай дэмакратыі і ўпрыватнасці інстытута асноўных праў і абавязкаў грамадзян, выказваючага сапраўдны дэмакратызм савецкага грамадскага і дзяржаўнага ладу.

# У Варшаўскім ваяводстве 32 даклады аб Беларусі

У сувязі з 40-годдзем утварэння БССР у месяцы студзені Ваяводскае Праўленне ТПП-Р у Варшаве арганізавала шмат мерапрыемстваў прысвечаных гэтай даце.

Найбольшым поспехам карысталіся вечарніцы, прысвечаныя беларускай культуры і паэзіі. Самымі шматлікімі імпрэзамі былі аднак даклады аб Беларусі. На працягу месяца ВП ТПП-Р эрганізавала 32 даклады. Выслухала іх звыш 4,5 тыс. асоб. (рл)

# Пласцінкі з беларускай музыкай

У гандлёвую сетку БССР паступіла многа альбомаў грамафонных пласцінак з беларускай музыкай. У кожным альбоме 5 пласцінак вырабу Ленінградскага завода грампласцінак.

Тут песні Н. Сакалоўскага, Д. Лукаса, І. Любана, У. Алоўнікава, П. Падкавырава, Р. Пукста, Ю. Семянякі, беларускія народныя песні ў выкананні харавой капелы БССР, народнага хору, самадзейных ансамбляў, салістаў М. Дзянісава, Т. Ніжнікавай, І. Балоціна і іншых. Асабліва шырокі попыт маюць пласцінкі з вядомымі беларускімі песнямі і танцамі «Радзіма мая дарагая», «Бывайце здаровы», «Любы зоры залацістыя». «Песня пра Заслонава» ,«Ой, Нёман», «Лявоніха», «Бульба».

Есць пласцінкі з сімфанічнымі творамі Я. Цікоцкага, Д. Камінскага, М. Аладава і іншых кампазітараў.

## Кожныя пяць мінут матацыкл

На Мінскім мотавеласіпедным заводзе цяпер кожныя 40 секунд з канвеера сыходзіць веласіпед, а кожныя пяць мінут — матацыкл. Тут вырабляецца да 10 працэнтаў матацыклаў, якія выпускае прамысловасць Савецкага Саюза. Па выпуску матацыклаў на тысячы жыхароў Савецкая Беларусь ужо абагнала Англію і ФРГ.

ЯНКА БРЫЛЬ **7)**

# Сэрца камуніста

Не прынялі нас, не далі нам зброі. Дый не было каму прымаць: ахопленая панікай, у бязладдзі армія адступала на ўсход услед за сваім гераічным начальствам. Пайшлі на ўсход і мы. Памятаеш мітынг у горадзе Сарнова — нашы прамовы, заклікі да барацьбы з фашызмам? У Познані нас акружыла «страж абыватэльска» і зноў пасадзіла за краты... Ноччу, ахопленыя панікай, турэмшчыкі пачалі выпускаць нас праз фортку жалезнай брамы — па двох. Так засталіся мы з табой адны, удвох пайшлі далей...

Не забуду ніколі той адзінокай польскай хаты каля шашы, куды я зайшоў напіцца. Над хутарам кружыўся бамбавоз з чорнымі крыжамі на крыллях, а ў хаце стаяла на каленях маладзіца з малым. Яно было голенькае, нібы на руках у мадонны. І сама яна, простая, бедная польская жанчына, у сваёй беззабароннай нявіннасці здалася мне святою. Усімі пакінутая, усімі ашуканая, яна рабіла адно, што магла, — малілася ўголас, і слёзы цяклі з яе ясных вачэй І я — атэіст, я — мужчына, які ўжо не раз сустракаўся з ворагам, я таксама заплакаў...

Мы бачылі, мы адчувалі трагедыю польскага працоўнага народа, якога чакалі яшчэ калючыя драты і печы крэматорыяў. І мы не маглі нічога больш зрабіць, чым ісці, колькі сілы, на ўсход, дзе наша радзіма, дзе ўсё павінна было вырашыцца так, як трэба.

Памятаеш тую прыдарожную сціргу жытнёвых снапоў, у якой мы думалі набрацца сілы, тыя абрыўкі газетнай паперы, якімі ты абкручваў на досвітку мае акрываўленыя ногі, тую шашу, грукат салдацкіх ботаў і сялянскіх калёсаў, пад якія мы ішлі насустрач сваёй невядомай будучыні?.. Я апіраўся на тваё плячо, ты вёў мяне.

А вось цяпер ты сам падбіўся, занямог. Сёння, на нашай любчанскай сустрэчы сяброў-партызан, я зноў балюча адчуваю разлуку, з табою. Памятаеш, як ты казаў, што нам нельга стамляцца, што мы павінны яшчэ многае зрабіць?..

Суровы ваенны лёс разлучыў іх на крывавым шляху адступлення.

Застаўшыся адзін, Павел праз два тыдні дабраўся да Варшавы, дзе вельмі хутка апынуўся ў родным асяроддзі рабочых і бежанцаў - палітвязняў. Урад пакінуў сталіцу, уцёк з краіны. Аднак дэфензіва яшчэ дзейнічала: з варшаўскіх турмаў былі выпушчаны ўсе, апроч камуністаў... Палітвязні, якія вызваліліся з іншых турмаў, у тым ліку многа дзяўчат з жаночай турмы Фардон, зноў сталі тут, у неўзабаве акружаным горадзе, падпольшчыкамі.

Пры дапамозе таварышаў Паўлу ўдалося ўступіць у рабочы батальён, арганізаваны пэпээсаўцамі. Арганізатары крычалі аб тым, што Варшава, апяразаная ірвамі і барыкадамі, стане другім Мадрытам, аднак капралы і малодшыя афіцэры рэзэрва, якія абучалі дабраахвотнікаў, загадвалі ім біць «вечных ворагаў Польшчы — немцаў» усіх падрад, не шкадуючы ні старых, ні жанчын, ні дзяцей. Павел і некалькі іншых камуністаў, якім таксама удалося атрымаць зброю, палічылі патрэбным сказаць радавым байцам батальёна, што гэта — няправільна: не кожны немец іхні вораг. Назаўтра ў «выўратоўцаў» (падрыўнікаў грамадскага ладу) афіцэры перад строем забралі вінтоўкі.

Заставалася адно — скідаць з дахаў запальныя бомбы, ратаваць жыхароў, заваленых у бомбасховішчах, увесь час пільна асцерагаючыся старога ворага — дэфензівы.

«Чорны панядзелак» — 23 верасня, калі на непакорны горад была кінута неймаверная сіла гітлераўскай авіяцыі, вырашыў лёс Варшавы. Праз тры дні па яе акрываўленых вуліцах загрукалі боты захопнікаў.

У натоўпе бежанцаў, якім было дазволена пакінуць руіны сталіцы, Павел падаўся на родны ўсход. Ён быў ужо значна бліжэй: над Бугам стаяла Чырвоная Армія.

Яшчэ ні разу ў жыцці — ні дагэтуль, ні пасля — Павел не адчуваў такое радасці, як у той дзень калі ён сустрэў першых савецкіх людзей. Простыя хлопцы ў шэрых шынялях — рускія, украінцы, казахі, беларусы... — яны бралі сена ў прыдарожным маёнтку, калі да іх кінулася некалькі чалавек з радасным крыкам на рускай, украінскай і польскай мовах: «Браточкі! Таварышы! Родныя!..» Для хлопцаў з чырвонымі зоркамі на пілотках на гэтай зямлі, якую яны днямі вызвалілі, і яны не вельмі здзіўляліся; кармілі чорным салдацкім хлебам і гэтых, і гэтых пацяшалі па-мужчынску грубаватай

(*Працяг на стар. 6*)



 

# „Эва” у Беластоку

Пасля многіх паспяховых паказаў моды ў краіне і заграніцай, натуршчыцы славутага салона моды «Эва» ў Баршаве наведалі таксама Беласток.

Паказ моды адбыўся ў тэатры імя А. Вянгеркі. Ён разбудзіў захапленне ў публічнасці, асабліва ў жанчын. Дэманстраваныя мадэлі былі простыя і вельмі эфектоўныя. Ад убораў на лыжы, да балёвых сукенак — усё паказана з вялікай прывабнасцю і ветлівасцю, чаго несумненна пазайздросцілі натуршчыцам Эвы многія нашы жанчыны. Асабліва публічнасць цікавілася плашчамі і сукенкамі на перадпаўднёвы час дня, а таксама балёвымі сукенкамі. Усе ўборы выкананы з матэрыялаў, якія не цяжка знайсці ў нашым гандлю.

Шыкарныя, кароткія плашчы з даматканага сукна, шэрсці, непрамакальныя плашчы. Паказаны былі плашчы ў клетку, якая будзе модная ў гэтым вясеннім сезоне. Жанчынам спадабаліся рыпсавыя, бракатныя, шоўкавыя і шарсцяныя сукенкі, прыбраныя арыгінальнай крайкай з народным узорам. Некаторыя плашчы былі прыбраны фрэндзлямі, якія цяпер штораз часцей спатыкаецца каля розных фасонаў сукенак, плашчоў і блузачак.

Пажаданым было б, каб салон «Эва» з Варшавы часцей наведваў Беласток, дэманструючы самыя новыя фасоны, якія можна шыць з матэрыялаў прадаваных у нашых магазінах.

А. С.



**Мадэль №1 — сукенка з яснага рыпсу, на пасляабедні час. Модная лінія падкрэсленая павышаным поясам. Дэкальтэ накшталт лодачкі.**



**Мадэль №2. У гэтай сукенцы можна пайсці на забаву. Сукенка зроблена з сярэбранай лямы ў палоскі. Ля пояса ружа — вельмі модная ў гэтым сезоне прыбранасць вечаровых сукенак**



**Мадэль №3. Балёвая сукенка зроблена з эфектоўнай залатой лямы. Вялікае дэкальтэ прыбранае ланцужком, вузкі няпоўнадоўгі рукаў.**

Практычныя парады

## Вугаль для свіней

Усе мы добра ведаем, што свіння добра прырастае на вазе, калі мы даем ёй дастаткова бульбы, вотруб'я, збожжа і добра даглядаем. Але я вельмі раіў бы паспрабаваць даць свінням, як дадатак да пашы, дзеравяны ці каменны вугаль, торф, соль, вапну, ці так званы шлак з меліярацыйных равоў. Лёгка заўважыць, як ахвотна свінні ядуць усё гэта. А калі ядуць, то, значыцца, арганізм патрабуе гэтых складнікаў для свайго ўзросту і здароўя. Паспрабуйце, пераканаецеся.

Н. ПЕРАВОЙ

## Фарбаванне тканін

Перад фарбаваннем рэч трэба старанна ачысціць ад пылу і выдаліць плямы (асабліва тлушчавыя,) інакш гэтыя месцы не пафарбуюцца. Забруджаныя вырабы неабходна памыць, новую матэрыю перад фарбаваннем змачыць у цёплай вадзе.

Фарбаваць можна ў ацынкаваных або эмаліраваных бачках, вёдрах, тазах і г. д. Пасуда павінна быць чыстая, без іржы.

Фарбу трэба папярэдне развесці ў гарачай вадзе, добра размяшаць, ускіпяціць і дабавіць халоднай вады – каля 1 літра на кожны пакет фарбы. Атрыманы раствор старанна размяшаць, працадзіць праз няшчыльную тканіну і затым выліць у ваду, прыгатаваную для фарбавання.

Для фарбавання ў хатніх умовах баваўняных і шарсцяных вырабаў звычайна ўжываюць наяўныя ў продажы анілінавыя фарбы. Вырабы са штапельнага палатна, віскознага шоўку можна фарбаваць фарбай для баваўняных тканін. Для вырабаў з натуральнага шоўку карыстаюцца фарбай, прызначанай для шэрсці.

Раўнамерна змочаныя і выціснутыя вырабы кладуць у прыгатаваны фарбавальны раствор, нагрэты да тэмпературы 40—50 градусаў. Затым няспынна памешваючы гладкай палкай, раствор награюць амаль да кіпення і фарбуюць пры гэтай тэмпературы 30—40 мінут.

Пасля таго, як фарбавальны раствор закіпіць, трэба выняць рэч з раствору, дабавіць у яго воцату (2 сталовыя лыжкі на вядро), перамяшаць раствор і зноў апусціць рэч. Рэч трэба пакінуць у фарбавальным растворы да астывання, затым выняць. Пасля фарбавання вырабы старанна палошчуць спачатку ў цёплай, а затым у халоднай вадзе. Пры апошнім паласканні вырабаў з шэрсці рэкамендуецца дадаць 2 сталовыя лыжкі воцату на вядро вады.

Калі пафарбаваная рэч мае падкладку, яе трэба ад шарсцяных вырабаў адпароць, а ў паўшарсцяных — падпароць у некалькіх месцах.

І. ПАТАПОВІЧ

# Сэрца камуніста

*(Працяг са стар. 3)*

ласкай простых, вясёлых сыноў народа. А вось мужчына ў плашчы і ў капелюшы (Паўла пераапранулі ў Варшаве) трымае ў дрыжачых руках кавалак іхняга салдацкага хлеба і не можа вымавіць ані слова ад хвалявання...

«Не трэба, таварыш, усё ўжо добра, усё прайшло!..»

Усё мінула, засталася, нарэшце, толькі радасць свабоды. На крылях яе, падганяючы час, ён дабіраўся ў роднае Наднямонне. Вёз яго свой, савецкі цягнік, свае, ужо і тут савецкія людзі, што мякка высцілалі сенам воз, у хатах кармілі героя родным хлебам і родным словам так зразумелага яму і так заслужанага шчасця. Апошнія пяць кіламетраў — па той самай дарозе, дзе ён калісьці, цэлую вечнасць таму назад, хадзіў і з паштальёнскай торбай, і ў кайданах, Павел прайшоў пехатою: хоць і спяшаўся вельмі але не змог адмовіцца ад гэтай ціхай, даўно чаканай прыемнасці... Была хмарная кастрычніцкая ноч, калі яго на ўскраіне родных Ярэміч воклічам: «Стой! Хто ідзе?» — затрымаў чырвонагвардзейскі патруль. Так не хацелася адказваць — думаў што непрыкметна і нечакана зойдзе ў хату друга, які ўжо, як ён даведаўся, дома... Аднак назваў сваё імя і прозвішча. Землякі не забыліся пра яго: хлопец з вінтоўкаю радасна закрычаў, на голас яго збеглася моладзь, старэйшыя, і ціхая хада яго ператварылася ў шумны, вясёлы паход да старой, маленькай Валодзевай хаты.

Толькі далёка за поўнач яны засталіся адны... А назаўтра і ў наступныя дні зноў амаль не зачыняліся дзверы, не змаўкалі воклічы прывітання, не магла закончыцца гутарка. Таварышы па былому падполлю ішлі сюды з бліжэйшых і далёкіх вёсак, неслі ад матак і жонак сваіх падарункі — хлеб, сала, малако, ад сябе далучаючы тое, без чаго іх пачуцці былі б не менш святочнымі і хмельнымі... І тут, у перапоўненай Валодзевай хаце, і ў ярэміцкім клубе, які — нядаўна адкрыты — звінеў песняй і музыкай. Паўлу хацелася ўшчыкнуць самога сябе і прачнуцца... Ды гэта быў не сон, а радасная, вынашаная ў марах сапраўднасць!..

Хацелася працы, аднак зусім непажадана і бязлітасна ў грудзях і ва ўсім целе дала сябе адчуць турма. Ён злёг. Як за братам, хадзіла за ім Валодзева жонка Алена, даўні іх друг па падпольнай рабоце, мужная і разумная беларуская жанчына. Стараліся не грукаць і не тупаць яе сыны і дачка, што спраўна павырасталі на гарапашным сірочым хлебе. Сам бацька дома бываў не часта: ён працаваў у часовым упраўленні Стаўбцоўскага павета, за трыццаць кіламетраў ад дому. У знак пашаны моладзь падаравала Паўлу радыёпрыёмнік, змайстраваны вясковым умельцам. Жывая чалавечая ласка і гэты самаробны апарат з навушнікамі якога хворы не разлучаўся, у нейкай меры ўтаймоўвалі тугу па працы, па непасрэдным удзеле ў станаўленні савецкага ладу ў родных мясцінах.

У адзін з чарговых прыездаў Валодзі дахаты Павел усцешыў яго сваім бадзёрым выглядам.

«Віншую, браток! Дык што — пачнем?»

І Павел пайшоў на працу.

Спачатку ён быў загадчыкам паравога млына ў мястэчку Турэц, пасля яго абралі дэпутатам Мірскага раённага савета, і Павел Арсеньевіч узначаліў Турэцкі сельскі савет. Гэта была жывая, творчая праца — заўсёды з людзьмі, якія дзялілі, нарэшце, панскую зямлю, арганізоўвалі калгасы, будавалі клубы і школы... Незабыўны, радасны час!.. Павышэнне, якое Паўлу неўзабаве прапанавалі, не вельмі ўсцешыла яго. Ды ён даўно прывык быць верным салдатам партыі — пайшоў на новую пасаду, у Мір, засеў за сакратарскі стол райвыканкома.

Калі наогул час у працы праходзіць хутка, дык тыя паўтара перадваенныя гады праляцелі як адзін дзень, тым больш, што ён быў небывала сонечны і звонкі. Дзіўная рэч! — за гэты час Паўлу нават ні разу не прыснілася турма...

Затое ў чэрвені — ліпені сорак першага года ў памяці яго балюча ажылі ўспаміны крывавай трагедыі польскіх дарог. Цяпер ужо — зусім нечакана і незразумела — адступала родная армія, палалі родныя вёскі і гарады, гінулі родныя людзі... На параконным райвыканкомаўскім возе, з групай дзяўчат - медсёстраў і з новым другам — вечна вясёлым рускім хлопцам Васем Лапаціным, Павел дабраўся да Беразіны, трохі вышэй ад захопленага варожым дэсантам Бабруйска. У Магілёве яны, дарваўшыся, нарэшце, да вагонаў, павярнулі з Лапаціным на поўдзень: на чыгуначнай станцыі Іўкаўка, за Днепрапетроўскам, працаваў пуцевіком Васяў старэйшы брат Грыгор.

У Паўла і Васі (адзін — сакратар райсавета, другі — старшыня раённага аддзела асоавіяхіма) была бронь, аднак хлопцы вырашылі ісці на фронт. Лапацін нават запэўніваў, што іх, дабраахвотнікаў, згодзяцца паслаць у адну батарэю... Сінельнікаўскі райваенком чамусьці не зразумеў іх, даволі бесцырымонна папрасіў ісці дахаты і чакаць. Неўзабаве былога артылерыста Васю прызвалі, а Паўла не пусцілі ў армію па стану яго здароўя.

У жніўні фронт прыйшоў і сюды, на Днепрапетроўшчыну. У перапоўненым бежанцамі вагоне, з капіталам, які налічваў 47 рублёў, за месяц Павел дабраўся да Сызрані, адкуль быў накіраваны ў Чкалаўскую вобласць.

**(Працяг будзе)**

